~~Год IX~~—1920 г. Красавік-Травень. 1-я кніжка.




**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ЖУРНАЛ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**



І срыбны мэдаль „Саха" атрымала на Віленскай гаспадарска выстаўцы за стацьці аб насеньни у 1913 г.

**Цэна кніжкі 5 марак без перасылкі.**

Перасылка—почтай.

**Падпіска прымаецца не на мейсцы, а на лік кніжак па парадку іх выходу у сьвет.**

## ЗЬМЕСТ:



**Адрэс: Менск-Беларусскі, вул. Міцкевіча (Захароуская) 99—8.**

2 срыбны медаль «Саха» атрымала на Мінскай гаспадарскай выстаўцы за стацьці свае аб гаспадарцы у 1914 г.

Год 1920. 1-я кніжка.

# „САХА“

Першы беларускі журнал сельскай гаспадаркі зачаў ізноў выхадзіць ў сьвет.

Цана кніжкі 5 марак з дастаўкай.

Падпіска прымаецца на лік кніжэк у парадку іх выхаду. 6 кніг—30 м., 12 кніг—60 марак.

Адрэс рэдакцыі: **Менск-беларускі. вул. Міцкевіча (Захарауская) 99—8.**

Рэдактар: *А. Уласаў.*

Выдавец: *Беларускі Цэнтральный Саюз сельскай гаспадаркі.*

# Да чытачоў і супрацоўнікаў „Сахі“.

Многа культурных маетнасьцяў зруйнавала вайна і рэвалюцыя.

Беларусь, дзе ўжо чатырэ гады стаіць вайна адпакутавала і пакутуець як ні водная краіна ў сьвеце. Каса сьмерці касіла па нашай зямлі ў ва ўвесь мах.

Мільёны людзей былі адарваны ад плуга і загона, сельская гаспадарка зруйнована, скаціна зьніштожына.

Але бяз хлеба людзі ня могуць існаваць ні воднага дня.

Малая вытворчасьць землі затрымліваець усю культуру і цывілізацыю..

Фабрыкі ня могуць выпрацовываць ніякіх вырабаў калі ёсьць недахват у харчох. Гарады, цэнтры інтэлегентнаго і прамысловаго разваю, галадаюць і не могуць даць зямлеробу, тое, што яму трэба ў замен хлеба. Вёска слабеіць—горад слабеіць. Хлеба больш сеіцца—ўсё пачынаець аджываць, гарады, фабрыкі, зялезныя дарогі, і інш. прамысловасьці і дзейнасьці ўсяго сьвета.

Саха з мабілізацыёй ў 1914 г. спыніла, я думал па ня доўгі час свае жыццё; рэдактара ўзялі на вайну разам с адміністратарам.

Пасьля 6 гадоў мы дачэкаліся шчасліваго часу і пачынаем ізноў сваю працу беларускаму землеробству.

Склікаем ўсіх старых супрацоўнікоў і просім даваць свае парады. У састаў рэдакцыі ўжо ўвайшлі спецыалісты практікі ўсіх галін агрономіі. Рэдакцыя мае замер, калі нашы правінцыяльныя лепшыя сілы практыкі і вучоныя гаспадары згуртуюцца каля рэдакцыі, выпускаць па кніжцэ што 2 нядзелі.

## Научная агрономія.

Што 2—3 месяцы рэдакцыя будзе выпушчаць апроча звычайных кніжак «Сахі» с практычнымі радамі, яшчэ асобыя намяры з працамі па экспэрэмэнтальнай агрономі, заотэхніцэ, селекцыі, балопознаўству, мэтэралёгіі, торфазнаўству, лесазнаўству, сельска-гаспадарскай эканоміцэ і інш.

Ахвотна прыймаем усіх хто хочэ і можэ дапамагчы нам сваей працай і просім прысылаць стацьці, працы будуць аплочаны.

Дарагоўля бумагі і друку вельмі змушаець нас ставіць цану за кніжку ў 5 марак.

Рэдакцыя просіць усіх нашых прыхільнікаў нам дапамагчы, пашыраць і выпісываць «Саху».

*Рэдакцыя.*

†

Рэдакцыя „Сахі“ панесла ў часе вайны цяжкія страты ў радох сваіх першых супрацоўнікоў.

**Кароль Русецкі сын Вільгельма.**

Калі «Соха» с сваёй рэдакцыей перанеслась з Вільні у Менск прыйшлося ёй працаваць пры самых цяжкіх фінансовых варунках.

Кароль Русецкі кінуў уселякую другую працу больш даходную і дзеля беларускай ідэі і з любосцьцю да свае бацькоўшчыны Беларусі аддаў усе сілы на працу ў „Сахе“. Ен быў першым яе адміністратарам і апекуном. Пустыя кватэра і скарбніца былі ў рэдакцыі. Ен недзе, мусіць, у свайго бацькі, вядомаго ў Менску пчэляра і любіцеля садавода, цягаў на сваіх плячох дошкі, рабіў сам паліцы, сталы, крэслы, маляваў плякаты, цэлы дзень бегаў па справам „Сахі“. Малады, вясёлаго, мягкаго характэра, падзвычай інтэлігэнтная душа, з вялікім талантам мастока. Каб быць карыстным сваёй бацкаўшчыне, Карл, узяўся за самую цяжкую працу ў рэдакцыі. Дзякуючы яго энэргіі пачала выходзіць літэратурная часапісь „Лучынка„.

Кароль быў Менчук, і разіўся 1888 г. Тут скончыў рэальнае вучылішчэ, а потым у Кіяве скончыў школу малюнку с пекных штук, па сканчэньні яе адбываў вайсковую службу 2 гады, потым працаваў у Рэдакцыі «Сахі» і «Лучынкі». Гэта быў кароткі час яго вольнага жыцьця. Ен меў замер паступіць у архітэктурную акадэмію.

Вайна.

Кароль ужо прапоршчык у 301 бабруском палку.

Пры адступе у Ломжынскай губ. 28 ліпня 1915 г. немецкая куля скасіла маладае, поўнае талянтаў жыцьце у самым цьвеце сіл і надзей.

Кароль! сьветлая твоя памяць і жыцьцё навекі.

Нехай будзе прыкладам усім маладым беларусам.

**А. Уласаў.**

# Вясцавыя працы ў полі.

Каб лёгка было харчэвацца расьлінам трэба добра араць і баранаваць зямлю, каб яна абветрылася, ляпей перагнівалі і распушчаліся розныя часьціны; пульхная зямля рыхтуець прыбаль і выдаткі вады, а ўбітая зямля шмат глыбей прасыхаець у летку.

Для павялічэньня росту расліны, апрача вялікай меры вады, трэба і паветра бо толькі пры гэтых варунках могуць гной і розныя цьвёрдыя часткі зямлі раскладацца і выраблять сокі, якімі жывець расьліна.

У восень трэба араць поле, мароз успамагае зямле пульхнець, бо вада замярзаючы ў зямле пашырае яё. Мароз вымаражываець і розныя непатрэбныя гаспадару травы. Баранаваць поля на зіму не варта, бо яно не так вымерзаець.

Вясной пакуль яшчэ зямля мокрая, ня трэба баранаваць, бо поле заплывець і зробіцца моцная скарынка ад якой зямля будзе памалу сохнуць, ад гэтага нябудзе магчымасьці працаваць маленечкім нявідзімым жыўчыкам (бактэрыі), іх праца—як дрожджы для хлеба.

Гаспадар павінен злавіць момэнт баранаваньня, гэта надта важная рэч ад гэтага залежыць ураджай. Надта шкадліва позна баранаваньне калі з зімы ральля ужо зацьвярдзее. і усохне.

Баранаваньне ў пару сахраняець зімовую вільгаць патрэбную для ўзроста яравога

Пад яр трэба араць з восені, бо ворка вясной шкадліва, бо мы пераварачываем і сушым як раз той пляст зямлі дзе павінна быць вільгаць для карэньняў.

Але калі гаспадар не пасьпее дваіць поля да зімы, цык ляпей. вясной поле перэрабіць, чым оркай перасушыць.

Пад авёс вясной ня трэба араць, бо авёс і так узойдзе. Пасеіўшы авёс на зімовай ральлі трэба яго правіць спружыновай бараной, а не заорываць,—сеіць пад звычайную барану так сама ня добра, бо насеньне будзе зьверху і ад сушы можа зьгінуць.

**Лубіну** ляпей сеіць на зімовай ральлі пад барану.

**Авёс** сеіць ляпей на вільготных мейсцах, падзолістых, глiністых мажліва сьмела сеіць пад саху.

**Ячмень** сеіць у мягка вырабленную зямлю, калі ральля з восені ня выраблена добра, то яе трэба безпрыменна разы са два перэараць вясной.

**Гарох.** не баіцца недаробленай зямлі, сеіць яго пад саху, бо гарашыны перакачуюцца і не загортуюцца баронамі.

**На бульбу** трэба шчыра і глыбака араць, вяснавой парой найлепі працаваць спружыновай бараной.

Бульба ня любіць халоднай зямлі, садзіць яе калі пройдзе страх на марозы, калі пачне красавацца садовіна.

Вясной трэба старанна баранаваць, каб захаваць вільгаць.

Калі пасьля дажджоў зьявіцца скарынка на ральлі то трэба перабаранаваць хацяб ужо паказаліся ўсходы аўса чы гароху бо расьліна пушыцца пад гэтай скарынкай.

С.

---

## Места пад агарод.

Ляпей усяго пад агарод. (каля хаты) мейсца ні надта высокае ні надта нізкае—вільготнае, бо калі за высока чы за нізка агародзіне шкадліва.

Калі няма гэтага мернага мейсца, а трэба рабіць агародзіну на высокім чы на нізкім мейсцу, мы дамо параду як трэба даць рады каб ня было надта шкадліва агародзіне.

На высокім мейсцу каб больш захавалася вільгаці трэба яе глыбака перакапаць чы ўзараць каб у зямлю магла глыбнй прайсьці вада і не магчыма было ёй у хуткім часе высахнуць ад сонца і ветра, як гэта мажліва пры дробнай апрацоўце зямлі.

Каля агароду што на высокім мейсцу карысна абсадзіць дзярэвамі чы высокімі кустамі каб затрымлівалі вятры якія сушуць зямлю.

На нізкіх вільготных мейсцах зямля найчасьцей квасьнее і шкадліва карэньням агародзіны, гэтакі грунт трэба некалькі разоў глыбака разварушыць каб яна мела магчымасьць прасохнуць. Грады рабіць высака, каб вада ад дажджу ня надта затрымлівалася на градах, а бегла у барозны.

Агароднік інструктар **Г. Кажура**.

---

## Цімафейка замест Канюшыны.

Сёлета надта трудна дастаць канюшыны ды і дарага яна вельмі, бо фунт яе каштуе 30—40 марок. Найляпей замест яе пасеіць цімафейку, у гэтым годзе шмат яе ёсьць і танная па 3—4 маркі за фунт.

Ня меней карысьці дае цімафейка ад канюшыны, толькі трэба яё у пару скасіць каб яна на карні ня страціла ні харчовых ні смаковых часьцін. Сеіць яё трэба ў ячмень чы ў авёс. Касіць яе павінна не пазней як пачне выплываць, а найпазней як пачне красавацца. Для харчоў яна будзе смачней і карысьней.

д. Набароўшчына **Т. Эрдмаи**.

---

# Як палепшыць сенажаць і вяснавыя працы на ім.

Большасьць нашых лугоў гібеіць ад чэразмернай вільгаці. Нашы сенажаці знаходзяцца болей на балотах, на якіх растуць грубыя мала пажыўныя травы, дзе касіць цяжка дзеля безпраходнага багна. Гэткія лугі трэба абсушываць.

Найбольш вядомы і карысны спосаб абсушкі—гэта аткрытыя канавы, ужываюцца і закрытыя трубы, якія не перэшкаджаюць працам на сенажацях.

Сухія і абсушаныя сенажаці трэба ачышчаць ад моху, курганоў, кустоў і каменьняў.

Кусты ляпей выкапываць з карэньням.

Курганы і купіны зрэзаць рыдлеўкамі (калі няма да гэтага асобае машыны) і складаць іх у кучы каб перагнівалі. Апрача гэтага трэба у вясну баранаваць сенажаць да чарна, каб зьвясьці мох і даць доступ паветру да карэняў травы, каб ляпей расьлі.

Карысна аднаўляць травяны дзярван, трэба пераараць сенажаць і засеіць на яё кармавыя травы.

Аруць сенажаць з восені, саўсім дробна і глыбака каб перавярнуць увесь дзярван, каб ён хутчэй перагніў.

Вясной не пераварачываюць глебы, а сеюць авёс разам з мешанкай траў: канюшыны, цімафэйкі, сэрадэлі.

Каб хутчэй перагніў дзярван яго рэжуць перад успашкай дісакавымі баронамі. Мажліва два годы пад рад сеіць авёс не паднімаючы дзярвана на верх каб ён добра перагніў.

Вясной трэба перагледзіць канавы каб яны не засыпаліся і вада магла вольна цячы па іх.

Надта шкадліва пасьвіць з вясны па сенажаці скаціну.

Шмат ёсьць траваў, раз зьведзеныя не адрастаюць; вясной лепей за ўсе расьце трава, а ў сьпеку расьце памалу.

Ад спашы спазьніваецца сенакос, а гэта у гаспадарцы не карысна.

**М. Ф.**

---

# Якія травы і карняплоды сеіць для жывёлы.

Трэба канечне павялічыць як мажліва пляц пад сяўбу харчавых траваў і карняплодаў.

Найкарыснейшыя з траваў гэта—сэрадэла і пілнюшка.

Сэрадэлу мажліва сеіць адначасова і разам з яровым чы ў папары.

Пасеіўшы авёс чы ячмень паверх сеіць трэба сэрадэлу, так сама і ў папары па жыту мажліва сеіць.

Пілнюшку сеіць трэба пасьля ярыцы чы па парнай зьмені, асобна, як гарох. Любіць пясчаныя грунты.

З карняплодаў сеіць трэба белаю моркаў, буракі і турнэпс.

Буракі і моркаў сеіць у нагнояным грунце з восені, на сьвежым гнаю сеіць не можна; сеіць трэба з пачатку вясны.

Турнэпс трэба сеіць на легкіх грунтах, можна і пасьля жыта, расьце надта хутка. Сеіць трэба з пачатку чэрвеня, а у пачатку верасьня яна ужо пасьпее. Кожная рэпа мае вагі каля 10 фунтаў.

Гаспадары павінны зьвярнуцца да гмінных войтаў, а войты да старасты павятовага заявай, здабыць насеньня праз павятовыя склады сельскае гаспадаркі якія ёсьць у кожным павеце.

Инструктар малочнае гаспадаркі **Стяпан Ґерасімовіч**.

---

# Як ляпей садзіць бульбу.

Садзяць пад саху і пад барану. Пад барану найбольш садзяць па дварох. Пад саху садзіць ёсьць тры спосабы: 1) Завозяць кавалак зямлі гноем, растрэсаюць яго, тады загартываюць, а разам з заду садзяць бульбу; Трэба памятаваць тое, што бульбу заўсёды садзяць праз баразну, каб мажліва было пасьля абганяць, значыць у гэту баразну загортываецца гной, які не дае ніякай карысьці бульбе і марне гіне. 2) Так сама растрэсаюць навоз, загортываюць яго, а з заду адзін садзіць бульбу, а другі граблямі загортывае у баразну навоз, каб парожная баразна асталася без яго; гэты спосаб ня кепскі, але ў ім выходзіць тая самая мерка навозу, што і уперщым: а ўсякая жменька навозу дорага прыходзіцца. 3) На поле дзе мае быць бульба навозіцца гной вялікімі кучкамі, але затое рэдка, сажні на 2 ва ўсе бакі.

Па сяредзіне паміж радамі гаспадар робіць склад і спыніваецца у канцы каб бабы справіліся садзіць абедзьве баразны і затрэсьці іх навозам, затрэсаюць гноем там, дзе ляжыць бульбінка, а там дзе німа трэсьці ня трэба, бо бульба надта неразрастаецца карэнямі ў бакі.

Хоць гэтак садзіць марудней, як у першых двух спосабах, аднача, гаспадару астаецца палавіна навозу і ў восень выбярэ бульбы болей і лепшай.

Гэткім спосабам найлепей садзіць там, дзе жвыраватая зямля

Палажыўшы на бульбыну жменю гною, ніхай будзе вялікая суш, а вільгаць у гнаі затрымаецца, а як толькі пройдзе дождж тады вада перабіраецца праз жвырок да гною, а там, змыўшы з гною ўсе сокі ідзе да карэньнёў.

Гэты астатні спосаб найляпейшы і найкарысьнейшы.

**Б. Л.**

# Як садзіць капусту.

Капуста удаецца надта добра на грунце вільготным, перагноеным, глыбока перакопаным і ўсьвежа унаважаным.

Перакапываючы глыбака калі на паверсе грунту здарыцца гліна гэта капусьце ня шкодзіць.

На сухім і тарфяным грунце капуста не удаецца. Тению каб ня было гэта—шкадліва, але можна садзіць з поўночнай стараны, бо асобай гарачыні ня трэба.

Градаў не павінна рабіць высокіх, можна садзіц ьу ровень з зямлей парабіўшы паміж радамі барозны, каб удабней было абкапываць.

Расада ад расады павінна садзіць ня бліжэй як на 1/2 арш., а калі вялікія сарты то на аршын чы болей.

Самая лепшая пара садзіць разаду гэта ў сярэдзіне і канцы маю, пакуль яшчэ няма вялікай жарыні і засухі.

Ляпей сядзіць расаду ў вільготную чы хмурную пагоду з самай раніцы чы у вечары калі няма гарачыні.

Садзіўшы трэба пільнавацца каб ямка была не маленькая і карэньням было раскошна і садзіць глыбей чым расада была у зямлі да гэтуль.

Закапаўшы расадзіну зямлей трэба зямлю калі расады прыцісnуць рукой. На окал кожнай расадзіны трэба зрабіць углыбеньне (лунку), каб вада затрымлівалася.

Для заховы вільгаці і халадку надта карысна расадзе (яна моцнее і меней трэба паліваць) падлажыць у лунку горсці са дзьве перагною.

Праз нядзелі 3—4 трэба палоць.

Абкопываць капусту трэба ў сухую слоначную пагоду.

Першы раз абкопываць расаду як яна падрасьце на 1/4 арш. абкопываць не надта моцна.

Другі раз абкопываць калі яна досіць дужа падрасьце, абкопываць глыбей і добра узварушываць зямлю. Чым ляпей абкопываць тым карысьней для капусты, болі вільгаці і сьвежага паветрыя праходзе да каренёў.

Калі з'яўляецца чэрв на капусьце трэба пасыпаць тоўчэным галубячым гноем чы табакаю.

Капуста ня чутна да холадаў і марозаў. Наймацней расьце яна у восені дзеля гэтага сьпешацца зьбіраць капусты ня трэба. Ей не шкадліва маленькія маразы у градусаў 3—5.

Зьбіраць капусту трэба у канцы верасьня чы у пачатку кастрычыня

**С. Р.**

---

# Карысьць гарбуза ў гаспадарцы і яго ўзрост.

Скаціна нашага гаспадара за зіму так слабея, што ад ветру хістаецца, ледзь ногі цягня, а ўсе ад таго што няма ёй добрых харчоў праз усю зіму, на мякіне не пасыцея.

І тое добра ведае, гаспадар, што гатунак уходзіць праз „рот“, чым ляпей харчы, тым ляпей скот.

Вось дзеля гэтага пачалі людзі сеяць харчовыя травы і карняцлоды.

Сеяць маркоў, буракі і ня меней карысныя з харчоў гарбузы.

Вось я хочу пазнаёміць нашага гаспадара якая ёсьць карысьць ад гарбузоў і як іх павінна сеіць.

Адзін сажен зямлі засаджаны гарбузамі дае каля 1 пуду гарбузоў, а з адней дзесяціны будзе каля двох тысячаў пудоў.

Гарбуз надта карысны і смачны харч для ўсей скаціны; іх ядуць надта ахвотна: каровы, авечкі, сьвіньні і коні. Коні ад гарбуза хутшэй сыцеюць як ад месіва, а калі ім да гарбуза падсыпаць 2—3 хун. атрубеў то вельмі дае вялікую карысьць.

Свіньні ад гарбузоў сыцеюць надта хутка і ядуць іх ахвотна.

Каровы ад гарбузоў даюць балей малака, малако жырнейшае і масла мае добры смак і ахварбоўку.

Ужо праканаліся ў вялікіх гаспадарках, што 20 ф. гарбуза замяняе 5 ф аржаных атрубеў, але яшче болей у дзень дае карова малака і малако жырнейшае.

Апрача таго, што гарбуз вельмі карысны харч для скаціны, ён надта здаровы і сыты харч для чалавека: яго ядуць уселякім спосабом: пячоны, парэны, гатуюць у кашы, сушуць бо ен надта солодкі і смачны.

Мажліва і гандель з яго мець, возючы на рынак.

З зярнятак гарбузовых мажліва рабіць алей як з канаплі.

Гарбузы можна садзіць на кожным кавалку зямлі: на агардзе, на гумне, ў садзе, каля плоту. Найлепі яны любюць гной ці перагніўшую салому. Насеня трэба браць тое, што пралежыл 2—3 гады, гэта карысней, дае болей завязаў.

Поля трэба добра успахаць і забаранаваць і парабіць барозны. Садзіць трэба радамі, каб рад ад рада на сажан, а ямка (лунка) ў якую садзяць насеньня ад ямкі павінна быць аршыны на 2—3, каб было ім куды разрасьціся.

Сеюць такім парадкам:




Пакуль сеіць насеня ляпей троха намачыць.

Гарбузам шкадліва марозы, дзеля гэтага сьпешацца сеіць нема чаго, треба не раней 25 красавніка.

Трэба садзіць на слоначнай старане. Садзіць у кожную ямку (лунку) па 3—4 калівы. Паліваць гарбузов ня трэба. Зьбіраюць гарбузы з агароду ў палове верасьня.

Трэба атрываць гарбузы ад галінак з хвасткамі. Гэта ім здаравей калі ім прыдзіцца ляжаць у зіму. Як ужо з поля сабяруцца гарбузы трэба канечне іх з тыдзень альбо з два калі добрая цёплая слоначная пагода патрымаць на сонцы каб яны вылежаліся, але каб іх марозам не хапіла: яны тады смачней і ляпей заховываюцца.

У зіму хаваць калі няма такога мейсца ,каб яны не памерзлі лепш ад ўсяго у варыўні.

Скаціне для харчоў няшкодзіць, але яшчэ саладзей, калі яны троха прамерзнуць. Даючы скаціне трэба рэзаць чы сеч на кавалкі.

Свіньням карысна даваць параныя.

Л. К.

# Як сеяць и якую табаку.

I.

## Якую табаку у цяперашні час лічыць добрай.

Перш парады як садзіць табаку, я вытлумачу, што я разумею, гаворычы „добрая табака“.

Усім добра вядома, якая табака была ў продажу да расейска-нямецкай вайны і якую табаку прадаюць цяпер.

Калі раней лічылі добрай табакаю, якая каштавала 2 руб. фунт, напрыклад, табака гатункаў «Эніежа і Дюбэк» вырабу фабрыкі Стамболі, у цяперашную пару можна лічыць гэтую табаку найлепшаю.

У цяперашні час гэтакую табаку прывозюць з заграніцы, а дзеля таго, што яна вельмі дарагая, то і купляць яе не кажны можа.

Хто ня мае магчымасьці купляць дарагую табаку, то ужывае тутэйшага узросту, чы купляе танныя кепскія папіросы, набігыя дрэннай табакою, а часамі і рознай мешанкаю, але не табакою.

Кожны хто мае кавалачэк зямлі может выкарастаць пасеіўшы табаку, саўсім добрага по колеру і паху дыму.

Калі на поўдню удаецца табака найлепшага гатунку, то калі-б у нас удалася такая, што колерам і пахам заступіла-б табаку паўднёвых гатункаў 2 сорту, як напрыклад, фабрікі Стамболі чы Асмолова ў цану да вайны ў 1 р. 60 к. за фунт, то гэткая табака здаволіла бы тутэйшых табакураў. Нашая зямля лепшэй табакі і ня дасьць.

II.

## Як выбіраць сарты і сеіць насеньня табакі.

Табака расьліна поўдня, то патрэбуе цяпло і сухую ясную—слоначную пагоду, пры сяўбе ў нашым краю ўся істоць — знаходзіцца,

глаўным чынам, ня ў зямлі, на якой будуць садзіць табаку, а ў залежнасьці ад гатунка (характера) табакі.

Дзеля гэта каб удалася у нас добрая табака, найперш трэба выбраць сарты якія худшэй сьпеюць, з іх вось гэткія: Мультанская і Кубанская, а ў 2) раней высаджываць расаду.

Ляпей замарозіць табаку вутрэнікамі чым спазніцца з высадкай расады. Калі часамі папсуецца табака вутрэнікамі можна пасадзіць другі раз, пакінуўшы ў запас расады. Калі пасадзіць табаку пазней, то яна не пасьпее, а калі пасьпее, то яе не магчыма будзе высушыць, бо ў восень у нас бывае хмурая і вільготная пагода.

Трэба сеіць насеньня так, каб яно пасьпела ў пару калі трэба расаду высаджываць на грунт, гэта у палове маю старога стылю (траўня) калі ужо расада досіць надрасьце, мае па 5—6 лісьцейкаў апрача семенадалаў (першыя лісцейка). На гэта патрэбуецца часу каля $1^1/_2$—2 мес.

Трэба сеіць не пазьней, як у палове сакавіка. Сеіць трэба у парнікі, чы ў скрынкі; трэба ў скрынку насыпаць добрай пульхнай зямлі і паліць яе перад тым, як сеіць.

Каб засеіць аршын зямлі, трэба няболі насеньня як з напарстак, а расады з гэтага будзе ледзь не на цэлы морг.

Насеньне трэба зьмешаць з сухім пяском і праз шчэліны пальцаў пасеіць. Пасеіўшы потым трэба накрыць сытай пульхнай зямлей ў тоўшч у палец, прытіснуць дашчэчкай і паліць.

Чым хутчэй насеньня абойдзе тым ляпей, скрынкі трэба трымаць у цёплым мейсцу і трэба пільнавацца, каб зямля не прасыхала. Калі насеньне абойдзе, так праз дзён 5—10 трэба скрынкі паставіць бліжэй да сьвету і палівацъ праз дробнае сітачка і то па малу, бо далікатная расада можа загніць і прапасьці.

Калі ў расадзе будзе з'яўляцца нягодная трава, трэба вырваць шануючы каб не пашкодзіць расадзе.

Калі расада абойдзе надта густа, трэба прарваць, вырываць нягодныя і трэба памятаваць, што гэта робіцца асьцірожна, каб не пагнеціць той расады, што астаецца. Пасьля трэба паліць, каб зямля абсела і умацавалася тая расада, што засталася.

---

III.

## Як гнаіць зямлю і сеіць табаку.

Пакуль расьце расада, трэба вырабіць зямлю.

Ляпей ад усяго зямлю перакапаць лапатай ў восень, а калі тэта ня зроблена, то ў вясну.

Пад табаку лепшы грунт песчаны чы супяшчаны, але не вільготны і досіць тлусты. У сьвежы навоз ня трэба сеіць, бо табака гарэй гарыць і пах дыму горшы. Надта карысна ўсыпаць у зямлю замест гною ў восень чы у вясну з печы попелу, на адну шэснастку ($^1/_{16}$ дзесяціны) 6 пуд. попелу.

Попел мае для табакі многа карысных частак (калія і кальцыя) ад іх табака палепшаецца.

Перад тым як садзіць трэба дробненька граблямі разьбіць зямлю, потым па шнуру рабіць радкі.

Калі гатунак буйной табакі, напрыклад, Мультанская, то яе трэба садзіць са ўсіх бакоў на 1 арш. адну ад другое, а калі з дробным лісьцем, як напрыклад, Кубанская, то на 1/2 арш. ў ва ўсе бакі адну ад другае.

Калі зямля надта вільготная і цяжкая, то ляпей рабіць грады, бо на градах хутчэй высыхае вільгаць.

Перад тым, як пересаджываць расаду трэба добра паліць, каб зямля прыстала да карэнчыкаў і пераносючы, каб гэта зямля не абсыпалася.

Садзіць трэба гэтак: кіечкам або пальцам зрабіць у зямлі да 2 1/2 вяр. ямку куды садзіць расаду. Трэба, каб карэнчыкі находзіліся у зямлі роўна, каб не закручываліся, тады ляпей прыжыве табака. Садзіць трэба расаду аж да першых лісткоў; па боках яе загортываюць ямку і моцна абціскаюць зямлю каб абхапіла карэнчыкі.

Калі зямля сухая і пясчаная і пагода ясная, то ляпей пасьля перасадкі паліць.

**Агроном В. Ш.**

Марына-Горка.

# Агляд ягаднікоў вясной.

Ягаднік трэба агледзіць, адмаладзіць.

Найраней пачынаюць распуківацца почкі на малінніку, агрэсту і парэчках.

З агрэсту і парэчык трэба зрэзаць аброслыя мохам старыя галіны, пасьля асьцірожна абкапаць ні надта глыбока куст, уважаючы, каб не пашкодзіць маладым карэнчыкам, потым вельмі добра падліць кусты гнаёўкай, змешанай з кароўяга гною, курінага ці галубячага (надта карысны гной) і звычайнага попелу, усе гэта добра расцерці і ня густа разьвесьці.

Вяснавой парой абкладаць кустоў гноям ня можна, бо нападуць чэрві, такі спосаб робіцца ў восені.

Гнаёўкай паліваць трэба два разы: першы раз—як пачне распуківацца лісьцё, другі—як пачне красаваць куст.

На малінніку павінна зрэзаць леташнія сухія і нендзныя слабыя галінкі, а маладыя трэба падрэзаць па троху, каб страйнейшыя былі.

Пад маліннікам трэба колькі разоў з вясны і у леце разварушываць зямлю (абматычыць як для бульбы) і любіць яна дужа каб падсыпаць пад яе перагною з трэсак і паліваць гэтай вышей апісанай гнаёўкай.

Мажліва кусты вяснавой парой пересадзіць калі яны надта паразрасталіся, выкапаць куст і асьцірожна падзяліць яго на часткі, каб былі у кожнай часткі галіна з карэнямі тады садзіць у прыгатаваная ямы.

А хто хочэ разьвесьці маладняк, павінін флясаваць.

Агрэст флянсуецца такім способам: узяць на кусьце маладую галінку (аднагодку), прыгнуць да зямлі напалавіну, але каб не адламаць ад куста, ушчаміўшы яё ў дзереўляныя вілачкі насыпаць падыспод добрай надта гнойнай зямлі і ўкапаць ушчаміўшую галіну ў прыгатаваную зямлю. Гэтая галіна пусьця маладыя каренчыкі і ў восень будзе малады кусток, які пасьля адрэзаць ад старого куста і садзіць асобна.

Ад аднаго куста мажліва зрабіць 5—6 флянсаў, але павінна быць вельмі добрая перагнояная зямля бо флянсаваньня слэбіць старыя кусты.

Парэчкі флянсуюць гэтак: бяруць леташнюю маладую галіну, згібаюць на некалькі частак так, каб на кожнай было 6—7 вочэк і ўтыкаюць у дужа добра гнойнаю зямлю досіць глыбака, пакідаючы на версе ня болей 2—3 вочэк, з якіх да восені вырасьце лісьцё, а з тых што будуць находзіца ў зямлі вырастуць карэньня. Кусьцік малады трэба пільна палівааць пакуль не раскруціцця лісьцё.

Маліннік перасаджваецца ў жніўні. Яго трэба дзяліць як пісана вышей аб кустох, агрэста і парэчэк.

Што датычыць сліўніка і вішні, то лепі каб был глiністы перамешаны з торфам грунт. Садзіць трэба ў сакавіку ці красавіку і паліваць аж пакуль не распусьцюцца.

Ні вішняка, ні сліўніка старога нельга падрэзаць, бо пачнуць сохруць, а толькі мажліва сухія галіны падрэзаць.

Трускаўкі і суніцы (земляніка) трэба абкапвць за вясну колькі разоў, а якія патрэбна перасадзіць, паабрэзаць вусы і вельмі добра паліваць гнеўкай. А калі пачнуць красавацца, то добра хто мае магчымасьць аблажыць кусьцікі мохам для затрыманьня вільгоці.

Знава трускаўкі і суніцы трэба садзіць у жніўні. Грунт павінін быць сыты. Ня любяць засухі.

Садзіць ягаднік трэба такім парадкам: 

Л. К.

# Гнаеньне яблынаў і ігрушаў і вяснавы дагляд.

Для садовіны як і для розных хлебовых і травяных расьлін патрэбна: вапна, калі, фосфарная кіслата, азот і інш. Кожнае з іх мае сваю карысьць на розныя часьціны дрэва.

Вапна дапамагае разьвіцьцю пладоў, утрымлівае ў іх цукар.

Калі уходзе у склад дрэвесіны, лісьцяў і пладоў.

Фасфарная кіслата дапамагае разьвіцьцю красак, красавых пупышак і зярнят.

Азот хутка разьвівае лісьцё і дрэвесіну.

Кожнае з гэтых удабрэньняў можна разнымі порцыямі ўносіць у глэбу (грунт) незалежна адна ад другога, у відзе парашкоў, но ўцяперашні час няма магчымасьці дастаць іх на рынку, но за тое у кожнае гаспадарцы ёсьць гной.

Гной з вялікай карысьцю заменяе гаспадару ўсе тыя удабрэньня

аб якіх гаварылася вышэй, бо ён утрымлівае ў сабе ня толькі іх, але і інш. саставы якія патрэбуе кожная расьліна.

Гной лепшым лічыцца перапрэўшы, ад старой скаціны і якая адтрымывала добры харч.

Спосаб паляпшэньня грунту і садовіны вос які: кругом дрэва выкапываецца равок (канаўка) шырынёй і глыбінёй у $^1/_2$—$^3/_4$ арш.

Пры выкапываньні канаўкі трэба верхні пляст грунту, як лепшы складаць на адзін бок, а другі ніжэйшы на другі бок канаўкі.

Канаўка ад ствала павінна знахадзіцца (у залежнасьці ад ўзроста дрэва) на $^1/_2$—1—2 арш. і больш. Так бак больш меньш падходзіла пад канцы галін.

У канаўку кладзецца гной таўшчыней у $^1/_4$ арш. які добра перамешываецца з верхнім слоем грунту і утаптываецца, прысыпаецца астатняя зямля і зараўновываецца.

Капаючы канаўку часта сустракаюцца карэньчыкі і навэт крыху псуюцца, але гэта ня шкодзіць. Папсованьня трэба роўна абцяць, хоць бы рыдлеўкай, з абцятага мейсца, на агульную карысьць дрэва, вырасьце многа другіх махрачкоў (мочэк).

Надта карысна паліваць дрэва навознай жыжкай, потым чалавэччым гноем, ён разбаўляецца вадой на 1 вядро гною 8—10 вядзёр вады; пасьля ідзе птушыны гной—яго трэба 2—3 фун. пад кожнае дрэва.

Дзеля таго каб поўнае удабрэньне ляпей успамагала на плада нашэньня, то яго трэба дать дрэву ў пачатку лета, а дзеля хутчэйшага росту вясной.

Адначасова з гнаеньнем, калі гэта ня зроблена раней, карысна вырэзаць сухое гальлё, што пазакручывалася адна за другую і растуць у сярэдзіну кароны. Абчысьціць мох, так сама адмершую кару, замазаць трэшчыны і інш. раны.

Замазку добра зрабіць з воску, жывіцы (смалы) і каніфолі, узяўшы іх па роўнай часьці растапіць на агні і астудзіць.

Мажліва і гэткім спосабам зрабіць: $^1/_3$ часткі гліны і $^2/_3$ часткі гіпсу зьмешаць разам.

Пабяліць вапнай, але каб да яе было прыбаўлена 2 часткі гліны альбо кароўяга гною.

Пазьнімаць дзе ёсьць леташнае лісьцё што укручынае як бы ў павучыньне.

**Ігнатовіч.**

---

# Вяснавая чыннасьць пчэляра.

Пасьля зімы стан пчол пазнаецца па першым аблёце, калі яны добра аблётаюцца, добра асілюцца то стан павінін быць добры.

У першы цеплы дзень пчэляр павінін адчыніць вульля, калі калода то доўжень, а калі ў рамовым—затвор, адчыніўшы вымесьці памершых пчол і ўвесь на огул бруд; на гэта пчолам самім ня трэба будзе траціць часу і на тое мейсца зробюць больш вашчыньня і нанясуць меду.

Пчэляр не павінін выкідаць гэтага сьмецьця, а трэба яго ўсыпаць у начыня потым рассыпаўшы па халсту на гары добра прасушыць—потом прасеіць праз рэшата, ўсе непатрэбнае сьмецьцё прасеіцца, а вашчыньня застанецца, якое трэба пэратапіць.

Пры аглядзе трэба аглядзіць пляйстры, зацьвілыя выбраць, калі мёд закваснеў ад холаду яго трэба выбраць з вульля, потым зачыніць добра вульлі, каб захавалася цяпло для чэрью.

Гэты першы крок пчэляра павінін быць ў цёплый дзень; калі будзе градусаў 12—14 цяпла, бо у гэтаю пару матка найчасьцей кладзе яечкі, якім патрэбна цяплата, калі чэрв застудзіцца, у вульлі зробіцца хвароба—гнілец.

Пасьля пчолы пачнуць сьбіраць абношку чы пылок, калі яны руча працуюць і не варочаюцца з абношкай, то у вульлі павінна быць матка. Калі у вульлі няма маткі, то пчолы муравяцца, бегаюць і беспарадку лётаюць і ідзе ад іх жаласьлівы зык.

У добры цёплы дзень для лепшага перакананьня трэба паглядзець у гнёзды, калі ня будзе чэрвю, а ні яечек то значыць няма маткі, а калі яна і ёсьць, то будзе бясплодная; трэба гэты вулей далучыць да другога.

Злучэньня робіцца гэтак: стапнёва падстаўляецца вулей да якога мае быць прылучыны бязматачны вулей, пасьля патроху падкурываецца адзін і другі вульлі, каб іх троха абдурманіць, а потым выбіраюць з нягоднага вульля пчол у прыгатаваны, выбраўшы да чыста пчол абчышчаюць вулей, абкурываюць яшчэ і ўбіраюць далей, каб ня маглі да яго трапіць зноў тыя пчолы.

Мажліва слабыя вульлі усіліць гэта робіцца гэтакім чынам: калі пачнуць красавацца дзяравы, ў цёплы ясны дзень, каб і ветру ня было і было ня меней 15—14 градусаў і рабіць ня пазьней, як ад гадзіны 11 да 3-ая, калі старыя пчолы на праце, а маладыя яшчэ ў вульлі, то іх асьціружна не зьмятаючы з рамак, якія выбяруцца з вульля, але добра пераглядзіць каб ня было маткі, а калі яна ёсьць, адсадзіць, а рамкі з пчоламі і прыкрытым чэрвам перанесьці да слабейшага вульля, яны скора прызвычаюцца, а часамі пападуцца старыя яны самі адлецяць.

Трапляецца так, што ў вадным вульлі ёсьц некалькі матак, то бяруцца вельмі асьціружна матачнікі з чэрвамі і яечкамі і пераносяцца да маленькага сьпэцыальне прыгатанага вулейка, пакуль яны няспрыгодзяцца для павялічэньня пасекі, чы замены старых матак маладымі, акромя матачніка і чэрвю трэба паставіць і мед для харча. У гэткія маленькія вулікі трэба ўнесьць ня меней шклянак дзьвех маладых пчолаў.

Павяліцываць пасеку мажліва калі выявюцца ужо ў пасеце трутні і так сама ў гэтаю пару трэба рабіць зьмену старых матак, якія ужо пражылі па 3—4 гады, на маладых.

Зьмена робіцца гэтак: перада днём у які будзе ўпушчацца маладая матка з вульля вымаецца старая, каб пчолы па матцы знудзіліся. Маладую ўносіць трэба разам з матачнікам, але каб матачнік быў закрыты тонкім пляйстрам вашчыны і пакалоць у некалькіх мейсцах голкаю (лягчей для пчолаў), пчолы самі перагрызуць вашчыня і выпусьцюць матку.

Трутнявое вашчыньня трэба выймаць і ўстаўляць пчалінае, каб пачалы ў яе маглі складаць мед.

Павялічэньня гнёзд робіцца калі будзе відаць, што апошняя рамка ўся закрыта мухаю, тады устаўляюць новыя рамкі з вашчыньнем калі ня поўным, то хаця пачатыя і час ад часу падглядаць, каб пчолы ня скрыўлівалі вашчыньня ў рамках.

Вульля на агул павіны стаяць роўна.

Канечне, трэба праз усю вясну падкарчовываць усе пчелы хоць яны наймоцнейшыя.

Даваць трэба чысты мед, або сыту, гэта—мёд чы цукар разведзены на палову ў вадзе, даваць на сподачках і пасыпаць крыху мякінай, как-б пчолы не патапіліся. Калі ёсьць харч, матка пачынае моцна чэрыць, а пчолы пачнуць лётаць сьбіраць пажіву, даглядаць яечкі і карміць дзетак. У ночь трэба харч прымаць. У халоднаю пару харчаваць пчол ня можна, ім гэта шкадліва, а пачынаць харчаваць тады калі ужо ёсьць пылок.

**В. Русецкі.**

# Кароста (часотка) у коні.

Кароста—гэта хвароба шкуры якая з'яўляецца ад часоташнага клешчу, без якіх яна аб'явіцца у каня ня може.

Хвароба з'яўляецца тады, калі кляшчы чы іх яечкі будуць перанесяны з хворага каня на здаровага, праз пасьцілку, гуньку, збрую, скрабніцы і гэтак далей.

Адзнакі гэтай хваробы усім добра вядомы: плешчыны і струпы.

Хворае мейсца на шкуры вельмі сьвербіць найгорш у начы чы ў сьпеку, аба пасьля працы.

Шэрсть выпадае.

На шкуры з'яўляюцца струпы, навэт крававыя, шкура з часам грубее, сохне і зморшчываецца.

Перш за ўсе трэба хворага каня адзяліць ад здаровых і лячыць больш—меньш па такому пляну: 1) астрыгчы каня ўсяго альбо хворае мейцсца, 2) вымыць цёплаю вадою з мылам, альбо яшчэ ляпей лугам (шчолакам), калі конь абсохне, уціраюць у шкуру шчэткамі лякарства і астаўляць на шкуры не змываючы 5 дзён, пасьля чаго лякарства змываецца цёплай вадой і ўціраецца другі раз, а яшчэ праз 5 дзён такім парадкам, перш абмыўшы і трэці раз уцерці калі конь не паздаравее. Уціраецца праз 5 дзён для таго, што клешчукі множуцца ў шкуры і кожныя 5 дзён вылупліваюцца з ячэк маладняк (маладое пакаленьне), якое трэба забіць перш пакуль яны яшчэ не адлажылі ячэк.

Проці кαросты ёсьць шмат лякарстваў, але ня ўсе можна ужываць без прапіскі ветэрэнара і яго парады, дзеля таго, што замест карысьці можа каню пашкодзіць, а з другога боку ня ўсе лякарства мажліва знайсьці дзе небудзь ў дзяреўні.

Як пераканаліся найкарысьнейшым і не шкадлівым для каня з'яўляецца гэткае лякарства, якое ёсьць магчымасьць прыгатаваць самому ў даму вось якое: бяруць 1 фун. серы, $^1/_2$ фун. сьвежей вапны ўсыпаюць гэта разам у вялікі чугун і патрохі падліваюць у яго памешываючы $1^1/_2$ вядра вады. Чугун ставіцца на агонь (ляпей на вольным паветры (ў вонках), каб удушлівы дух вышаў мешаючы калом, даюць гетавацца до тай пары, пакуль гэта жыжа ня стане колеру (цьвету) звычайнага піва; замест той вады, што будзе выкіпываць, трэба патрошку падліваць вадой, каб калі згатуецца было ня меней $1^1/_2$ вядры жыжы.

Калі жыжа адстоіцца ў чугуне трэба яё зліць ад асадку, а тады можна гэтым лякарствам ўціраць целага каня, паўтараючы гэткім парадкам што 5 дзён.

Можна так сама лячыць каня і карасінам змешаным на палову з вадой. Мейсца дзе стаіць хворы конь трэба трымаць вельмі чыста; пасьцілку часьцей заменіваць, сьцены стайні абмыць гарачым лугам абы вадой, альбо выбяліць вапнаю, збрую часьцей мазаць дёгцем і не накладаць яе на здаровага каня.

## Чыстка каней і кароў.

Каб спыніць заразу і не даваць хваробе пашырацца трэба, канечне каней і кароў чысьціць шчоткамі і скрабніцамі штодзень і хаця раз ў тыдзень купаць. Такім парадкам ўсе папаўшыя кляшчукі чы іх яечкі на шэрсьць будуць счышчаны і змыты.

**Доктор-Ветэрэнар І. Сэрзда.**

## Квактуха і гадоўля ціпенят.

Добра ведаючы як хадзіць каля курэй і як гадаваць ціпенят значна павялічыть даход ад гэтае часткі гаспадаркі, бо не здарма навука кураводства кажэ, што курыца--гэта банк, каторы приносіць 200% даходу. Вось каб у нас былі добрыя куры, парунімся добра іх выгадаваць. Цяпер як раз тая пара, калі гаспадыні садзяць квактух, ды пачынаюць гадаваць ціплят.

Каб квактуха добра сядзела на яйцах, трэба яе выбіраць з пэўных і старых кур, а найлепш будзе калі хто мае можнасьць пасадзіць індычку—гэта найлепшая маці. Як робім гняздо, садзючы квактуху, кладзем пад спод дзярно, альбо зямлю, ад каторых ідзе вільгасьць так патрэбная для пэўнага вылупліваньня ціпенят. На дзярно кладзём сена, паложым 11—18 яец, гледзячы па квактусе і садзім ў цёмным, спакойным мейсцы з добрым паветрым. Кормім квактуху ячменем, ад яго яна ня будзе хварэць жыватом і да паветра будзе хадзіць адзін раз ў час па карму і ніколі не наробіць ў гняздо. Калі часам гэта здарыцца, паволі, не сьпешаючы, выціраем запэцканыя яечкі анучкаю, макаючы

яё ў цёплую воду. Кормім квактуху раз ў дзень, заўсегды ў адну і тую пару, так каб яна не бачыла свайго гнязда. Там дзе кормім павінна, каб быў попел з пяском, квактуха будзе купацца, чым зьнішчыць у сябе паразытаў. Часам квактуха ў той час як сходзіць харчавацца, выкіне яйко, якое покпе. Яго не выкідаем, а трэшчыну залепім тоненькаю паперкаю, каторую адлепім, як пачуем, што ў ём ціпеня ўжо цьвікае.

Часта бывае, што ўсе цыпенята вылупіліся, а пад квактухаю засыпаецца яшчэ некалькі яечак.

Каб пазнаць, ці выйдзе што, наліваем ў міску цёплае вады 28—30°/₀R і пушчаем яйкі, калі яны будуць паварачвацца, круцідца—з іх выйдуць ціпенята, дзеля чаго кладзём іх зноў пад квактуху, калі будуць плаваць паволі спакойна—будуць баўтуны.

Як толькі ціпенята вылупіліся, ды абсохлі, выймаем з пад квактухі і кладзём ў гаршчок з пер'ямі, каторы павінен стаяць ў цёплым мейсцы. Першы дзень па вылупленьні можэм не карміць іх, а пасьля 2—3 дні даем ім моцна згатаваннае яйка. Потым кормім добра згатаваннай прасянай кашай, даем пасечанае мяса, а найлепш тварог. На двор выпушчаем на 3—5 дзеня па вылупленьні ў цёплы ясны дзень. Поім заўсёды чыстаю вадою, ў каторую дабаўляем «calcium chloratum» (хлерыстая ванна), разводзячы чайную лыжэчку ў шклянце вады і 1—2 чайных лыжэчкі раствору дабаўляем ў шкляку вады, каторую даем ціпенятам. Ад гэтага ў ціпенят разьвіваецца моцны і шырокі касьцяк. Да 10—14 дзён кормім прымерна цераз 2 гадзіны, пасьля радзей—цераз 4—5. Пакорм павінен быць заўсёды сьвежы, можна ў яго дабаўляць троха стоўчэнага вугля, ад чаго ў ціпенят заўсёды будзе добры жывот.

**Т. Імшэнік.**

*Рэдактар: А. ЎЛАСАЎ.*

*Выдавец: Беларускі Цэнтральны Саюз Сельскай Гаспадаркі.*

## Беларускі Цэнтральны Саюз Сельскай Гаспадаркі.

## Весткі Сельска-Гаспадарскай Каапэрацыі і Сельска-Гаспадарскай Хронікі.

# СТАТУТ.

Заложаны Беларускі Центральны Саюз Сельскай Гаспадаркі, праўленьне якога знаходзіцца ў гор. Менску па Койданоўскай вул. 21, кв. 4, мае на мэце арганізаваць пераробку і збыт прадуктаў, гаспадаркі сваіх сяброў, дастаўляць ім ўсе патребныя для сельскага гаспадарскага вырабу рэчы, памагаць паляпшеньню і разьвіцьцю вытварэньня гаспадаркі сваіх сяброў, пашыраць сельска-гаспадарскія веды (знаньня) паміж сваіх сяброў і памагаць арганізацыі Сельска-Гаспадарскіх саюзаў на мейсцох для пашыреньня гаспадаркі.

Дзеля дасягненьня вышэйсказаных мэтаў Саюз:

а) робіць закупку і збыт рэчаў для гаспадаркі,

б) аказывае дапамогу сваім сябрам рабіць пазыкі у крэдытных установах,

в) апрацовывае спосабы для паляпшэньня гаспадаркі сваіх сяброў,

г) памагае сябрам па арганізацыі супольнага вядзеньня гаспадаркі і супольнага карыстаньня прыладамі вырабу,

д) прымае на сябе кіраўніцтва і кантроль над правідловым вядзеньнем гаспадаркі сяброў,

е) прымае способы да пашырэньня сельска-гаспадарскіх ведаў паміж сяброў, закладае лекцыі, курсы і бібліатэкі,

ж) прымае способы да здавальненьня патрэбы сяброў ў доктарскай помачы і лячэбных срэдствах,

з) і наагул прымае ўсе даступныя способы да найлепшага дасягненьня заданьняў паказыных вышей.

Саюз можа, каб дасягнуць сваіх мэтаў, паказаных вышэй, па асобнай пастанове агульнага сходу:

а) закладаць склады, элеватары, агэнтствы і магазыны;

б) закладаць предпрыемства для паляпшэньня і пераробкі паказаных вышэй рэчаў, а так сама для скарыстаньня працы сваіх сяброў, іх жывога і няжывога інвентару, нямаючых даволі выкарыстаньня ў сваей гаспадарцы;

в) рабіць паказныя палеткі і агароды і прамысловыя расаднікі;

г) утрымываць пракатныя пункты;

д) утрымываць гатунковых стаднікоў;

е) закладаць лячэбніцы для жывёлы і прытулкі;

ж) закладаць школы с. г., выстаўкі, народные дамы і выдаваць перыядычныя і іншыя друкі;

з) закладаць касы ўзаемнай дапамогі сяброў на прыпадак хваробы, інваліднасьці ці сьмерці.

Саюз мае права ўсімі законнымі спосабамі набываць маетнасьць, рабіць умовы, уходзіць у абавязкі, учыцяць іскі і адказываць на судзе і на агул карыстацца ўсімі правамі юрыдычнай асобы.

# УВАГА!

Калі грамадзяне беларусы захочуць на мейсцу заложыць свае таварыства Сельскай Гаспадаркі і прылучыць яго да Беларускага Цэнтральнага Саюзу Сельскай Гаспадаркі, хай зьвернецца ў Праўленьне Саюзу, якое знаходзіцца у Менску (Койданоўская вул., д. № 21) з заявай, з азначэньнем акуратнага адрэсу і прыдачай 10 марак на высылку інструкцыі, статутаў і заяў, якую павінен падаць гурток у Цэнтр. Бел. Саюз Сельскай Гаспадаркі аб уваходзе у яго сябры і другую ўладзе аб зацьвerджаньні статутаў.

Ад сябе Центральны Саюз будзе высылаць складаючымся таварыствам інструктароў для інструктарскай дапамогі новым селянскім арганізацыям.

# Сход Б. Ц. С. С. Г.

У Бел. Цэнтр. Саюзе Сельскай Гаспадаркі адбыўся 25 красавіка 1920 г. агульны сход.

Згодна унесянай прапазыцыі агульным сходам былі прыняты:

1) даклад часовага ураду аб дзейнасьці Саюзу,

2) зацьвержэньне каштарысаў і пляну дзейнасьці,

3) бягучыя справы,

4) выбары сталага ураду і рэвізыйнай камісіі.

1. а) аб історыі арганізацыі Саюзу дакладаў сходу Гр. Ул. Кернажыцкі.

б) аб агранамічным адзелу рабіў даклад гр. А. Шатэрнік.

в) даклад аб конным лятучым парку рабіў гр. К Тэрэшчанко, пры чым павядоміў, што апрача лятучага парку, Саюз адчыніць скла-

ды сельска-гаспадарскіх машынаў і прыладаў ў Менску і арганізуе збыт іх навескі праз кааператывы,

г) Даклад аб тэхнічным адзепу рабіў гр. А. Трэпка, а глаўным чынам аб арганізацыі цэнтральнай рамонтнай майстроўні ў Менску і аб узяцьці у карыстаньне фабрыкі вырабу сельска гаспадарскіх машынаў і прылвдау. Гэткую фабрыку Бел. Центр. Саюз Сельскай Гаспадаркі мае на мэце у Бабруйску.

II) Потым ідзе даклад пана Тэрэшчэнкі аб разглядзе каштарысаў на выдаткі пэнсыі супгацоўнікам Саюзу. Увес гэты даклад сходам ухваляецца зацьверджаецца.

III. Аб бягучых справех дакладал п. Тэрэшчанка, бяручы пад увагу палежныя параграфы статуту Саюзу.

IV. Былі выбары Ураду Саюзу.

Выбранымі ў сябры Ураду Бел. Цен. Сбюзу Сел. Гасп. аказаліся: 1) гр. К. Тэрэшчанка (старшыня), 2) гр. Ан. Трэпка, 3) гр. Ул. Кернажыцкі, 3) гр. Ап. Бонч-Асмалоўскі і 5) гр. А. Шатэрнік.

У кандыдаты ураду: гр. Т. Станілевіч і гр. А. Дземідовіч.

V. Былі выбары рэвызійнай камісіі.

Выбранымі ў рэвізыйную камісію аказаліся: 1) праф. В. Іваноўскі, 2) гр. Мурашка і 3) гр. Е. Трахімаў; кандыдаты у рэвізыйную камісію; 1) гр. Белькевіч і 2) гр. Вярнікоўскі.

VI. Нарэшце агульным сходам прыймаецца такая постанова, ўсе тыя матэрыялы і данныя, якія былі распрацованы па кожнаму адзелу часовым урадам і заслуханы агульным сходам павінны служыць ад первага агульнага сходу Саюзу наказам сталаму урада Беларускагэ Цэнтральнага Саюзу Сельскай Гаспадаркі.

# У КНІГАРНІ

## Беларускай Школьнай Рады

ПРАДАЮЦЦА ГЭТАКІЕ КНІЖКІ:

### 1. Для навучаньня.

| | Цана | |
|---|---|---|
| Аб'ясненьні сымвола веры, 10 запав. і малітв, *Цальцова* | 2 | — |
| Малітвы першые і пазнаньне праваслаунай веры, *Раманова* | 1 | — |
| Беларусь у песьнях, *Фарботкі* | 8 | — |
| Гісторыя сьвятая, карбткая *Шустара* (лац.) | 3 | — |
| Географія Беларусі, *Смоліча* | 10 | — |
| Граматыка беларуская, (лац. і гр.) | 2 | 50 |
| Дыямэнты бел. прыгож. пісьм. (зборнік) | 6 | 50 |
| Задачнік, I год, *Юрэвіча* | 1 | — |
| Задачнік, II і III г.г., *Юрэвіча* | 2 | 50 |
| Зорка, граматка I, *А. Смоліч* | 2 | — |
| Зорка, граматка II, *А. Смоліч* | 6 | — |
| Карта Беларусі | 3 | — |
| Лемантар беларускі, *Цеткі* | — | 25 |
| Лемантар беларускій (л.) | — | 25 |
| Лемантар новы, *Я. Станкевіча* (л.) | 1 | 50 |
| Наша Крыніца II, *Я. Лесіка* | 5 | — |
| Нашы песьняры, *А. Навіны* (л.) | 5 | — |
| Незабудка I, *Ластоускага* (л.) | 1 | — |
| Родны Край I, *Гарецкай* | 5 | — |
| Родны Край II, *Чарняушчынкі* | 5 | — |
| Сейбіт, II, *Ластоускага* (л.) | 5 | — |
| Слоунік белар.-маскоускі, *Гарецкага* | 8 | — |
| Чытанка дзіцячая, выд. *«Вольн. Бел.»* | 1 | — |
| Чытанка 1-ая, *Цеткі* (л.) | — | 50 |
| Чытаньне 2-ое, *Я. Коласа* | 4 | — |

### 2. Навуковыя, даступныя усім.

| | | |
|---|---|---|
| Асновы дзяржаунасьці Беларусі, *Пр. Доунар-Запольскага* | 1 | 50 |
| Гутаркі аб гаспадарцы, *Сажпалоускага* | — | 50 |
| Гутаркі аб небе і зямлі, *Каетравіцкага і Шаулоускага* | 1 | 50 |
| Зямельная справа у Новай Зэляндыі, *А. Б.* | — | 25 |
| Праграма беларускай ніжэйшай пачатковай школы | 3 | — |
| Пчаліна малая живела, а карысьці дае многа, *К. Бярозка* (л.) | 3 | — |
| Што трэба ведаць кожнаму беларусу, зборнік | 3 | — |
| Як павялічыць выск з кароу | — | 25 |
| Як ратаваць уздутую жывелу, *К. Дулембы* | — | 50 |
| Як ужываць штучны нав.? *Карповіча* (л.) | — | 50 |
| Беларускі народ і яго мова, *акд. Е. Карскага* | 3 | — |
| Популярны выклад праграмы Беларуск. Соц.-дэмакратыі *А. Ж.* | 1 | — |

### 3. Повесьці, апавяданьні, казкі.

| | | |
|---|---|---|
| Абразкі, апавяд. *З. Бядулі* (л.) | 1 | 50 |
| Аб чым шапацелі лисьця, *Таурува* | 1 | — |
| Апавяданьні, *Т. Гушчы* | 2 | — |
| Апавяданьні, *У. Галуба* | 1 | — |
| Архіп і Лявонка, апав. *М. Горькага* | 1 | — |
| Бярозка, апав., *Ядвігіна Ш.* | 1 | — |
| Васількі, *Ядвігіна Ш.* | 2 | 50 |
| Вязанка, *Я. Лучыны* | — | 50 |
| Гэдалі, ап., *Э. Ожэшко* | 1 | — |
| Дзядзька голад, *С. Віткевіча* | — | 50 |
| Жыды на Беларусі, *З. Бядулі* | 2 | — |
| Зажынкі, зборнік | 10 | — |
| Зборнік літэратур. в. *«Вольн. Бел.»* | 2 | — |
| Казкі аб вадзе, *Белямі* (л.) | — | 25 |
| Казкі | — | 50 |
| Казкі беларускіе | — | 50 |
| Казкі беларускіе, *Станіча* | 1 | — |
| Калядная пісанка на 1913 г. | 1 | — |
| Маладая Беларусь, зборнік I | 10 | — |
| » » » II | 10 | — |
| » » » III | 10 | — |
| Наша Ніва, зб. I | 1 | 50 |
| Наша Ніва, зб. II | 2 | — |
| Неманау дар, ап., *Т. Гушчы* | — | 50 |
| Ня усе-ж разам, ягом., ап., *Я. Лесіка* | 1 | 50 |
| Пракленашы, *Гвазда* | 1 | — |
| Прапау чалавек, *Я. Коласа* | 1 | 50 |
| Родные зьявы, *Т. Гушчы* | 5 | — |
| Рунь, апав., *Гарэцкага* | 3 | — |
| Стражнік, *Бірыла* | 1 | — |
| Сыгнал, апав. *У. Гаршына* | 1 | — |
| Тоустае палено, *Т. Гушчы* | — | 50 |
| Хілібэртава пакута, *Амфітэатрова* | 1 | — |
| Цукер, апав., *Тройцы* | — | 50 |
| Што-б ня здарылося, в. *№ 1 Лучынкі* | — | 50 |

### 4. Вершы.

| | | |
|---|---|---|
| Адвечная песьня, аб. у 12 з. *Я. Купалы* | 2 | — |
| Апавяданьні і легенды | 3 | — |
| Вянок, *М. Багдановіча* | 4 | — |
| Гапон, *Марцінкевіча* (л.) | 4 | — |
| Дудка беларуская, *Багушэвіча* (л.) | 2 | — |
| Жніво і дажынкі, нар. песьні *Станіча* | 1 | — |
| Кацярына, *Т. Шаучэнкі* | 1 | 50 |
| Курганная кветка, *Буйло* | 3 | 50 |
| На прызьбе, *Я. Быліны* (л.) | 1 | 50 |
| Пан Тадэуш, *А. Міцкевіча* (л.) | 2 | 50 |
| Песьні жальбы, *Я. Коласа* | 5 | — |
| Прыпеукі, *Ластоускага* (л.) | 1 | — |
| Прыпеукі беларускіе, *Станіч* | — | 50 |
| Смык беларускій, *Багушэвіча* (л.) | 1 | — |
| Сымон музыка, *Я. Коласа* | 8 | — |
| Тарас на Парнасе (bis) | 1 | — |
| Чыжык беларускі, *Г. Леучык* (л.) | 3 | — |
| Шляхам жыцьця, *Я. Купалы* | 12 | — |
| Шчароуск. дажынкі, *Марцінкевіча* (л.) | 1 | 50 |

Пазволена Цанзураю. Мінск, друкарня Я. Грынблята.